ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 50 (1544) ГОД XXX БЕЛАСТОК 15 СНЕЖНЯ 1985 г. ЦАНА 10 зл.

## НАРЭШЦЕ ЦЁПЛА І ЎТУЛЬНА

Янка Суліма, настаўнік з вялікім стажам, колішні выпускнік беларускага ліцэя ў Бельску, потым шматгадовы дырэктар падставовай школы з беларускай мовай у Бельску, а пазней — працаўнік бельскага інспектарата асветы, вырашыў папрацаваць у спакойнай вясковай школцы. Рашэнне прыйшло пад уплывам хваробы. Лекары раілі знайсці спакойную, неклапатлівую працу, нічым не хвалявацца, ізалявацца ад шумнага, нервовага сённяшняга свету.

Такім чынам Янка Суліма прыняў дырэктарства школай у Дубяжыне.

„Ніколі не думаў, што ёсць у нас яшчэ школы, якія працуюць у такіх умовах, — успамінае дырэктар Суліма. — Школа мясцілася ў старым, мабыць, яшчэ царскім драўляным будынačку. Як ні стараліся зімой паліць у печках, ніяк нельга было ўтрымаць тэмпературу хоць на некалькі градусаў вышэй 0. Дах працякаў, палавіцы ўгіналіся і скрыпелі пад нагамі ад найменшага руху. Дзеці не вучыліся, а мучыліся“.

А ў другім канцы вёскі, на высокім пагорку стаялі ўжо на высокім падмурку сцены новай школы. Папярэдні дырэктар Янка Шарко змог арганізаваць па-

(Працяг на стар 6)



Дырэктар школы Янка Суліма.




## ПІШЫЦЕ ПРА ЖЫЦЦЁ, ПРА СМЕРЦЬ І ПРА ЛЮБОЎ!..

Найперш хачу вам сказаць, што я па нацыянальнасці паляк. Ды ўсё, што мае сувязь з беларускім народам, мяне вельмі цікавіць. Я адзіны тут у нашым пасёлку, дзе каля 9 тысяч насельніцтва, ужо два гады выпісваю і чытаю часопіс „Ніва“. Я добра ведаю беларускую мову, але мне лягчэй чытаць, чым пісаць па-беларуску. Хаця я радзіўся ў Варшаве, то выхоўваўся на Гродзеншчыне і ў душы лічу сябе беларусам. Я там закончыў дзесяцікласную школу і там правёў сваю маладосць, і там паставіў першыя крокі ў самастойнае жыццё. Я пазнаў простую душу тамашніх людзей, іх адкрытасць і шчырасць. За тое менавіта, за іх дабрату, я палюбіў іх на ўсё жыццё. І цяпер, у апошнія гады майго жыцця, мне давялося пабываць у многіх краінах свету. Напрыклад, я працаваў у Іране, быў у Югаславіі, у Германіі, у Фінляндыі. А калі быў у СССР, мне ўдалося пабываць і ў Казахстане, і ў Карэльскай АССР, і ў Архангельску, і на Сахаліне. А таксама два гады я пражываў у Туркменіі, у горадзе Ашхабадзе, адкуль мая жонка, з якою я пражыў 31 гадоў і вырасціў чацвёра дзяцей, якія ўжо самі жанатыя, а мы маем ужо трох унукаў.

І дзе я не быў, у душы ў мяне і ў вачах стаялі заўсёды лясы Беларусі, яе прыгожыя гарады, калгасы, палі — хоць пясчаныя, ды родныя. І нідзе не знойдзеш сардэчнейшых людзей і лепшых сяброў, як па ўсёй Беларускай ССР. У цяперашнім складаным свеце, з яго крызісамі, прыступнасць і сардэчнасць беларусаў у вялікай цане.

Я са свайго боку лічу, што любы ваш артыкул, апублікаваны ў „Ніве“, вельмі карысны і патрэбны. І кепска дзеецца з душою ў тых беларусаў, якія хочуць быць палякамі за ўсякую цану. Важна быць чалавекам, звязаным са сваімі народнымі традыцыямі, мець сувязь са сваімі аднапляменнікамі. Толькі такі чалавек можа сапраўды быць шчаслівым.

Шкада, што я не магу з вамі сустрэцца, з вамі, жыхарамі-беларусамі Беластока. Я моцна звязаны з Гродзенскай вобласцю, дзе я вырас у вёсцы Трубка, Карончынскі с/савет. Гэтая вёска знаходзіцца ля самай дзяржаў-

(Працяг на стар. 4)

## ШЛЯХАМ ГАДОЎ

## ПЕРАМОГА

Калі ў 1253 годзе ля магутных сцен і вежаў сталічнага Навагрудка ў промнях яскравага летняга сонца заззяла на чале Міндоўга пышная каралеўская карона, пад яе гарачымі промнямі створаная князем Данілам велізнымі коштамі і ахвярамі варожая Вялікаму княству Літоўскаму кааліцыя спачатку размякла, бы воск, а неўзабаве зусім растала.

Пачалося ўсё з таго, што рыцары-мечаносцы на чале з магістрам Андрэем Сцірландам і епіскапам Мікалаем прагналі з Рыгі Таўцівіла разам з яго значна парадзеўшай падчас ваявання Полаччыны валынска-палавецкай дружынай і паслалі сваіх рыцараў у дапамогу каралю Міндоўгу. І так, той, каго рыжане яшчэ некалькі месяцаў таму назад усхвалялі як выдатнага хрысціяніна і абяцалі служыць яму, цяпер вымушаны быў уцякаць, як найгоршы злачынец. Апынуўшыся ў Жамойціі, пад апекай свайго дзядзькі Выкінта ў ягоным замку Цверымет, Таўцівіл спрабаваў разам з Вікантавымі войскамі наладзіць наступ супраць караля Міндоўга, ён нават паслаў сказаць Данілу: „Ідзі на Навагрудак!“

Князь валынска-галіцкі ўсё яшчэ не траціў надзеі, што каліцыі, хоць і аслабленай здрадай рыцараў-мечаносцаў, усё ж удасца зваяваць Вялікае княства Літоўскае. Ён энергічна ўзяўся за стварэнне аграмаднай арміі. Злучыў у яе не толькі ўсе вайсковыя сілы Галіцка-Валынскай Русі, але і шматлікія орды палавецкага хана Цегака, з якім дзеля гэтага парадніўся, бо летапісец называе яго Данілавым „сватам“. Сабраная ўсяго за некалькі месяцаў вялікая армія рушыла не на Вялікае княства Літоўскае, а на... Пінск! Так, князі галіцка-валынскія палічылі, што настала адпаведная нагода захапіць і скарыць беларускае Пінскае княства, якое было саюзнікам Вялікага княства Літоўскага (глядзі адрэзак „Пад прагным вокам“, „Ніва“ ад 27.X.1985 г.). Каб уратаваць сябе і сваё княства, князі пінскія прымушаны былі пайсці „неволею на войну“, як чытаем у Галіцка-Валынскім летапісе.

Аднак і кароль Міндоўг не драмаў. Не паспелі валынцы з полаўцамі ўправіцца з пінскімі князямі, як прыйшла Данілу вестка, што „послаша стороже Литва на озере Зьяте“ — паведамляе той жа летапіс. „Озеро Зьяте“ ў XIII стагоддзі — гэта, мабыць, сённяшняе нізіннае балота Зляціна на паўднёва-ўсходнім пабярэжжы Белавежскай пушчы (цяпер у Камянецкім раёне Брэсцкай вобласці). Значыць, нягледзячы на захаванне Данілавай аб'яднанай арміяй таямніцы і асцярожнасці, Навагрудак быў хутка і дакладна праінфармаваны аб яе намерах. Нельга не захапіцца вайсковым талентам Міндоўга: ён замест выстаўляць супраць захопнікаў вялікія сілы — паслаў яму ў

(Працяг на стар. 4)

## НА МЯЖЫ

### АБ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ І НАЦЫЯНАЛЬНАСЦІ (XVI)

Спачатку хачу вярнуцца да таго, што ў папярэднім нумары „Нівы“ было канцом майго артыкула. Чаму мы такія страшэнныя вырадкі? Тады, калі ў паляка, рускага, немца, англічаніна асвета служыць развіццю і ўмацаванню нацыянальнай свядомасці і роднай мовы, у нас, беларусаў, служыць чамусьці зусім супрацьлегламу? Спрыяе адыходу ад усяго роднага на грунт чужой мовы і чужой свядомасці?

І тут даходзім да справы бадай што найважнейшай. Здаецца мне, што становішча не было!б аж так драматычнае, калі б беларуская мова мела іншы дзяржаўны статус, чым той які яна мае. Вядома, што ні адзін народ, ні адно племя, у тым ліку таксама і народ беларускі сам па сабе ніколі не прыйшоў бы да вываду, што яму родная мова непатрэбная, што чужая мова лепшая, чым уласная. Кожны чалавек і кожны народ носіць у сабе інстынкт самаабароны, перакананне ў тым, што ўсё тое, што складае яго нацыянальную істоту, з'яўляецца найлепшым і найдасканалейшым. Гэта ж тое самае, што і з роднай маці. Ці ж родная маці не з'яўляецца ў свядомасці кожнага чалавека чымсьці найлепшым, найразумнейшым, найсардэчнейшым? І ці нехта з нармальных людзей хацеў бы родную маці замяніць на іншую? Гэта ж самае адносіцца і да роднай мовы. Дык чаму ж беларусы пастанавілі памяняць сваю мову на чужую? Таму, што былі пушчаны ў ход такія механізмы, якія не спрыялі захаванню мовы роднай, а спрыялі ўспрыняццю мовы чужой як мовы роднай.

Уявім сабе становішча, якое створыцца ў нас праз дзесяць-пятнаццаць гадоў. Тыя беларускія дзеці, якіх сёння бацькі не навучылі размаўляць па-беларуску, стануць дарослымі людзьмі, будуць мець уласных дзяцей. Зразумела, што ў ніякім выпадку яны не навучаць гэтых дзяцей гаварыць па-беларуску. Не можа нават быць гутаркі аб тым, каб гэтыя дзеці ў школе схацелі вывучаць беларускую мову. А гэта абазначае, што наступнае пакаленне будзе адрэзана ад усёй той складанай з'явы, якая называецца беларускай культурай. Такая сітуацыя грозная ў многіх аспектах, між іншым, у аспекце развіцця беларускага літаратурнага руху ў Польшчы. Не толькі не будзе прыплыву новай генерацыі беларускіх пісьменнікаў, але не будзе таксама чытачоў. Маладое пакаленне беларусаў, не валодаючае роднай мовай, — нават калі б і хацела, але яно не схоча, ніколі не працягне рукі да беларускай кнігі. А гэта адназначна з натуральнай смерцю беларускага літаратурнага руху ў Польшчы.

Ужо я калісьці пісаў, што мова гэта вялікая карысць для чалавека. Карысць гэтую адчувае валодаючы мовай усюды: у сваёй хаце, на вуліцы, у школе, ва ўстанове, у храме, у горадзе. А як гэта справа выглядае ў нас? Карысць ад беларускай мовы адчуваем толькі ў хаце і толькі на вуліцы сваёй вёскі. У школе — па-за заняткамі па беларускай мове, ва ўстанове, у храме, у горадзе карысці з нашай мовы не маем ніякай. Вось адсюль і б'е крыніца згубы для нашай мовы. Знішчыць пашану да роднай мовы, вывесці яе з штодзённага карыстання, а што за гэтым ідзе, і выкінуць яе з чалавечых сэрцаў вельмі лёгка. Проста трэба ўключыць такія механізмы, якія пазбаўляюць даную мову аспекту карысці. І ўсё! Не трэба спецыяльных заба-

(Працяг на стар. 5)

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### ЛАЎРЭАТЫ 1985 ГОДА

Напярэдадні ўсенароднага свята — 68-й гадавіны Вялікага Кастрычніка адбылося прысуджэнне Дзяржаўных прэмій СССР 1984 года ў галіне навукі і тэхнікі, дзеячам літаратуры, мастацтва і архітэктуры, а таксама вялікай групе перадавікоў Усесаюзнага сацыялістычнага спаборніцтва. Сярод лаўрэатаў — нямала прадстаўнікоў Беларусі.

Дзяржаўных прэмій СССР удастоены: у галіне навукі і тэхнікі — акадэмік Акадэміі навук БССР Уладзімір Піліповіч, дацэнт Віцебскага медыцынскага інстытута Сяргей Бялоў, галоўны інжынер Віцебскага станкабудаўнічага завода Уладзімір Блау, наладчык вытворчага аб'яднання „Мінскі трактарны завод імя У. І. Леніна“ Аляксандр Дзем'яновіч і іншыя, у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры — драматург Аляксей Дудараў, рэжысёр „Беларусьфільма“ Віктар Дашук, мастак Барыс Герлаван і іншыя; перадавікі Усесаюзнага сацыялістычнага спаборніцтва — буравы майстар Рэчыцкага ўпраўлення разведвальнага свідравання вытворчага аб'яднання „Беларуснафта“ Мікалай Самончык, трактарыст-машыніст калгаса імя Чапаева Мсціслаўскага раёна Магілёўскай вобласці Іван Сідарэнка, брыгадзір комплекснай брыгады Глыбоцкага доследнага лясгаса Віцебскага ўпраўлення лясной гаспадаркі Марыя Ярмаловіч і іншыя.

### ЗАМЕСТ ДРЭВА

Метал стаў сыравінай для аб'яднання „Баранавічыдрэў“. Тут пачаў дзейнічаць цэх па вырабу аконных блокаў з алюмінію.

Магутнасць новай вытворчасці — 250 тысяч квадратных метраў вырабаў, што дазволіць забяспечыць гэтымі канструкцыямі большасць новабудоўляў рэспублікі. Усе аперацыі ў цэху — ад раскрою загатовак да складзіравання гатовай прадукцыі — выконваюць аўтаматы.

Прымяненне алюмінію ў дзесяткі разоў павялічвае тэрмін службы аконных пераплётаў. Яны не рассыхаюцца, не ўтвараюцца шчыліны, і тым самым лепш утрымліваецца цяпло ў кватэры. На будоўлі такія вокны будуць паступаць у поўнай заводской гатоўнасці — пафарбаваныя і зашкленыя.

У Беларусі пачаўся важнейшы этап перабудовы дрэваапрацоўчай прамысловасці на новай тэхнічнай базе. У дванаццатай пяцігодцы будзе створаны шэраг новых вытворчасцей і рэканструяваны старыя.

### ПАЛЕСКАЯ МЯТА

Ні адно сардэчнае лякарства нельга прыгатаваць без мятнага масла. Буйным пастаўшчыком гэтай лекавай раслінай сыравіны стала адзінае ў рэспубліцы спецыялізаванае аб'яднанне, у якое ўвайшлі пяць саўгасаў Петрыкаўскага раёна Гомельскай вобласці.

Гэтая культура займае каля дзевяцісот гектараў. Вырошчваць яе — праца не з лёгкіх. Кожны корань трэба выкапаць, разрэзаць на часткі і затым зноў пасадзіць у зямлю, атрымаць усходы. Потым — падкормка пасеваў, апрацоўка супраць насякомых-шкоднікаў, уборка, падвяльванне...

Атрыманае з палескай мяты масла адпраўляецца на фармацэўтычныя заводы Беларусі, Украіны, у іншыя рэспублікі.




L.A. Antoniuk — Kultura tekstu naukowego a normalizowanie terminologii naukowej w języku białoruskim. „Prasa Techniczna" (Warszawa), R. 1985, Nr 1, s. 23—24.

Marceli Kosman — Początki państwa Jagiellonów. „Przegląd Tygodniowy" (W-wa), R. 1985, Nr 36 s. 10.

Leon Tarasewicz: Malarstwo. Oprac. Joanna Paszkiewicz. „Radar" (W-wa). R. 1985, Nr 24, s. 12—13.

Drogi polskiego prawosławia. Rozmowę z Bazylim Doroszkiewiczem przeprowadził Bronisław Tumiłowicz. „Argumenty" (W-wa), R. 1985, Nr 22 s. 3.

Jedna z najlepszych. (Spółdzielnia Mleczarska w Bielsku Podlaskim). Rozmowę z Wierą Pawluczuk przeprowadził Wiesław Falkowski. „Przegląd Mleczarski" (W-wa), R. 1985, Nr 2, s. 22.

Stefan Trochimiuk — Pracownie wychowania patriotycznego. (Szkolna izba pamięci narodowej w Bielsku Podlaskim). „Oświata i Wychowanie". Wersja A (W-wa), R. 1985, Nr 3, s. 26—27.

Recenzja (autor: Włodzimierz Stochel) książki „Пясняр роднай зямлі. Жыццё і творчасць Я. Купалы“ Мінск 1982. „Slavia Orientalis" (W-wa), R. 1983 (wyd. w 1985 r.), Nr 4, s. 534—536.

Recenzja (autor: Franciszek Sielicki) książki „Народная культура і быт беларусаў“ Мінск 1982. „Lud" (Wrocław), R. 1984, T. 68, s. 285—188.

**П.Байко**




### МРОІ І РОЗГІ

Амерыканцы вельмі любяць статыстыку. У ЗША бяруць на ўлік самыя разнастайныя дадзеныя. Мы публікуем надборку гэтай рэгістрацыі, якая, нам здаецца, паможа зразумець псіхалогію і круг інтарэсаў сярэдняга амерыканца.

У ЗША толькі 2 працэнты насельніцтва надаюць знешнепалітычным праблемам першараднае значэнне.

87 працэнтаў амерыканцаў не ведаюць, каго ЗША падтрымлівае ў Нікарагуі — сандзініцкі ўрад ці „контрас“.

52 працэнты амерыканцаў мараць толькі аб тым, каб разбагацець.

У 1974 годзе 44 працэнты амерыканцаў лічылі, што за імі ўстаноўлены нагляд, а ў 1984 годзе так думалі ўжо 67 працэнтаў.

45 працэнтаў жыхароў ЗША заяўляюць, што яны ніколі не чытаюць кніг. 39 працэнтаў амерыканцаў ніколі не ходзяць у кіно.

У 1983 годзе амерыканцы правялі ля тэлевізараў 213 000 000 000 гадзін.

У 1983 годзе ў ЗША налічвалася 10 000 астролагаў, а астраномаў — 2500.

74 працэнты амерыканцаў лічаць, што навука і тэхніка могуць знішчыць чалавецтва.

40 працэнтаў амерыканскіх бацькоў ніколі не чытаюць кніг сваім дзецям, а 27 працэнтаў не памагаюць дзецям рабіць хатнія заданні.

У сярэднім амерыканскі падлетак праводзіць у класе і за падрыхтоўкай урокаў 38 гадзін у тыдні, а японскі — 59.

20 працэнтаў вучняў 6-х класаў у ЗША не могуць знайсці сваю краіну на геаграфічнай карце.

83 працэнты амерыканскіх бацькоў прызнаюць, што яны б'юць сваіх дзяцей.

Сярэдняе амерыканскае дзіця да 16 гадоў паспявае ўбачыць у тэлеперадачах 18 000 забойстваў.

Ад 1959 да 1983 году колькасць самагубстваў сярод амерыканскіх падлеткаў павялічылася на 300 працэнтаў.

Пры апытанні ў пачатку 1984 года 33 мільёны амерыканцаў заявілі, што яны кінулі курыць.

Адна трэцяя дарослых амерыканцаў не ўжывае алкагольных напіткаў.

20 працэнтаў апытаных гавораць, што ім лягчэй адважыцца вырваць зуб, чым мець справу з аўтамеханікамі на станцыі абслугоўвання.

77 працэнтаў амерыканцаў вераць у існаванне царства нябеснага, але 5 працэнтаў думаюць, што там будзе нудна.

69 працэнтаў амерыканцаў, што жывуць на Сярэднім Захадзе, расцэньваюць свае шанцы трапіць у рай як добрыя ці выдатныя.

У 1982 годзе 1 000 000 амерыканскіх сем'яў заявіў, што ім было адмоўлена ў медыцынскай дапамозе з-за адсутнасці грошай.

27 працэнтаў грамадзян ЗША лічаць, што павінен быць прыняты закон, забараняючы шлюбы паміж прадстаўнікамі розных рас, а 58 заяўляюць, што цёмнаскурым „не трэба працісківацца туды, дзе яны нікому не патрэбны“.

13 працэнтаў амерыканак лічаць сябе прыгожанькімі. Мужчыны больш самаўпэўненыя — 28 працэнтаў не сумняваюцца ў тым, што яны прыгожыя.

# ЯГО НЯМА Ў ЖЫВЫХ

Неяк цяжка пагадзіцца з тым, што ўжо няма ў жывых Юркі Геніюша, нашага пісьменніка з кагорты „белавежцаў". Яму было ўсяго пяцьдзесят, акурат столькі, калі чалавек дасягае зеніту ўласных духоўных магчымасцяў.

Юрка Геніюш нарадзіўся 21 кастрычніка 1935 года ў мястэчку Зэльва, Ваўкавыскага павету, у сям'і лекара. У той далёкі нам цяпер (на шчасце) час, калі беларускаму інтэлігенту не было прыстойнага месца ў Айчыне, бацькі Юркі эмігравалі ў Чэхаславакію, у Прагу. Там і прамінула яго дзяцінства, у настроі культу ўсяго беларускага, якім поўніўся эміграцкі дом Геніюшаў. Услухоўваўся ў натхнёныя гутаркі і бачыў на свае вочы ён не адну, гістарычную нам ужо постаць з беларускага свету. Яго маці, якую ён перажыў толькі на два гады, гэта выдатная паэтэса Беларусі Ларыса Геніюш.

Жыццёвы лёс пераважна не ўсміхаўся ласкава такім людзям. Юрку давялося пажыць сіратою, спачатку ў пасляваенным дзіцячым доме ў Народнай Польшчы, затым пад апекаю беластоцкіх сваякоў. Закончыў тутэйшую Медыцынскую акадэмію, стаў на работу лекарам, спецыялістам дзіцячых хвароб. Працаваў у розных установах, але наймацней запамятаўся ён сімпатыкам ягонага таленту з часоў работы ў Гарадку. Гэта тады з'явіліся з-пад яго пяра арыгінальныя сваёй індывідуальнай адметнасцю замалёўкі і апавяданні.

Ён дэбютаваў на старонках „Нівы" 20 кастрычніка 1963 года апавяданнем „Прыкметы". Праз два гады ў альманаху „Белавежа" № 1 змясціў кароткую падборку сваёй прозы: „Як знайсці хулігана?", „Ой ты, доля мая", „З апавяданняў старога сабакі Тарзана" і „Як мы арганізаваліся". Ужо ў іх відаць было непадробны творчы почырк, па якім потым лёгка апазнавалася Геніюшавае пісанне. Такая непадобнасць на іншых — прыкмета небанальнага таленту, заяўка на важкую будучыню. З перспектывы звыш дваццаці гадоў цяжка так адразу прасачыць тое з



яго творчасці, што распылена на старонках „Нівы" і іншых часопісаў ці ў Беларускіх календарах. Юрка пісаў і драматычныя творы для дарослых і для дзяцей. У „Зборніку сцэнічных твораў", выдадзеным у 1969 годзе і пад рэдакцыяй Яніны Чэрнякевіч, змешчана яго бытавая камедыя „Вываражыла" (якую потым ставілі некаторыя гурткі мастацкай самадзейнасці). Першай значнай на яго творчым шляху кніжкай аказаўся „Зборнік сцэнічных твораў", выдадзены ў 1976 годзе, таксама Беларускім грамадска-культурным таварыствам. Гэтае выданне рыхтаваў ён супольна са мною, гэта была наша супольная кніжыца, у якой апублікаваў ён п'есы „Хто-каго?" і „Прыгоды Белага грыба". Добра зарэкамендавана проза Юркі Геніюша ў савецкім альманаху „Літаратурная Беласточчына", што выйшаў у Мінску ў 1973 годзе.

У апошнім альманаху нашага літаратурнага асяроддзя, у „Белавежы" № 3, Юрка Геніюш выявіў зусім новыя якасці свайго таленту, менавіта ў паэтычнай прозе, у прысвечаным выпускнікам Бельскага беларускага ліцэя „Смыкам па сэрцы", у „Запавеце", „Чорным па белым", „Сейбіце". У „Запавеце" пісаў: „На добры лёс дзяцей. На тое, каб і мне ў свой час зямелька родная цяжарам не была. На тое, каб калісь сваім прылегчы з вамі". Як кожны сапраўдны паэт, ён хвараў за будучыню роднага слова!

На яго творчасць звярнулі ўвагу перакладчыкі. Тут няшмат мне вядома. Бачыў я ягоны верш на мове эсперанта. І даволі нямала на польскай. Прызнаны польскі паэт Ян Леанчук — родам з Лубнікаў, што ля Заблудава, — прыгожа падрыхтаваў невялікі томік Геніюшавага „Na początku było Słowo", выдадзеным пяць гадоў назад у рамках дзейнасці былога Літаратурнага клуба Саюза польскіх пісьменнікаў у Беластоку (з далучэннем арыгіналаў). Гэта фактычна адзіная прыжыццёвая кніжка Юркі Геніюша, маленечкая, але важная. І хоць васьмідзесятыя гады не надта спрыяюць літаратурнаму жыццю ў нас, трэба падумаць пра выданне зборніка выбранага з усяе яго спадчыны. І гэта не толькі дзеля памяці пра яго: чвэрць стагоддзя існавання „Белавежы" і яе здабыткі даюць свядомасць таго, што вырасла яна ў істотную часцінку нашай нацыянальнай літаратуры, а гэтым самым і культуры.

**Сакрат Яновіч**

# ПЛЕНУМ СЯМЯЦІЦКАГА АДДЗЕЛА БГКТ

II пленум праўлення Сямяціцкага аддзела БГКТ адбыўся 14 лістапада 1985 года. На ім была разгледжана дзейнасць аддзела ў 1985 годзе і прыняты план працы на наступны год. З дакладам выступіў сакратар праўлення аддзела Міхась Вішанка.

У Сямяціцкім аддзеле БГКТ існуе 17 гурткоў, якія налічваюць 364 члены. У апошнім часе рады БГКТ павялічыліся на 21 чалавека, прынятага ў гурткі ў Сямяціцах, Нурцы-станцыі і Літвінавічах. Членскія складчыны аплочваюцца рэгулярна. Галоўным культурным мерапрыемствам было арганізаванне конкурсу „Беларуская песня-85" супольна з Сямяціцкім цэнтрам культуры. Гурткі БГКТ былі суарганізатарамі фэстынаў у Мілейчыцах і Літвінавічах, многіх акадэмій, вечарын і ўрачыстых сходаў з нагоды 40-ой гадавіны перамогі над фашызмам.

На 8 кніжных латарэях распаўсюджана 1181 выдавецтва БГКТ. Прададзена 220 Беларускіх каляндароў на 1985 год. З канцэртамі выступалі хоры з Беластока і Гайнаўкі, калектывы з Рыбалаў, Дашоў, Тымянкі і драмгурток з Беластока. Члены і актыў БГКТ былі вельмі заангажаваны ў правядзенне выбарчай кампаніі ў Сейм ПНР.

Пасля справаздачы разгарнулася дыскусія. Пётр Леанюк, кіраўнік РОПП (раённы цэнтр партыйнай працы) і намеснік старшыні Сямяціцкага аддзела, гаварыў аб патрэбе павышэння актыўнасці членаў БГКТ. У сувязі з тым члены аддзела павінны супрацоўнічаць з гурткамі і дапамагаць ім у арганізаванні статутовай дзейнасці. Члены таварыства павінны больш актыўна дзейнічаць у напрамку распаўсюджвання навучання беларускай мовы. Трэба шырэй інфармаваць грамадскасць аб праблемах беларускай меншасці і таварыства. ГП БГКТ магло б арганізаваць усеагульныя універсітэты на вышэй упамянутыя справы. У развіцці мастацкай самадзейнасці на вёсках, у беларускім асяроддзі трэба супрацоўнічаць са школамі і гурткамі Саюза вясковай моладзі. Вельмі добрай ініцыятывай з'яўляецца тое, што плануецца ў 1986 годзе ў рамках сямяціцкіх дзён культуры адзін дзень прысвяціць беларускай культуры. Далей паінфармаваў ён аб тым, што старшыня аддзела БГКТ прымае ўдзел у сустрэчах з дэлегацыямі з Гродзенскай вобласці, якія наведваюць час ад часу Сямяцічы. На канец звярнуўся да ГП з прапановай арганізаваць для дзеячоў БГКТ паездкі ў БССР у рамках паяздоў ці аўтобусаў дружбы.

Сяргей Путка — член праўлення аддзела гаварыў наконт арганізавання юбілейнага фэстына ў сувязі з 30-годдзем БГКТ. Прапанаваў, каб такі фэстын арганізаваць традыцыйна ў Літвінавічах. У далейшым звярнуў ён увагу на магчымасці стварэння новых гурткоў у беларускіх вёсках вакол Сямяціч.

Міхась Вішанка — сакратар праўлення аддзела ў сваім выказванні паклаў націск на супрацоўніцтва БГКТ з грамадска-палітычнымі арганізацыямі і культурнымі ўстановамі пры правядзенні культурных мерапрыемстваў. Падзякаваў ён кіраўніцтву сямяціцкага цэнтра культуры, а асабліва яго дырэктару Антону Хілінскаму за сур'ёзны і спрыяльны падыход да БГКТоўскіх ініцыятываў у галіне культуры.

Сакратар ГП БГКТ Віталіс Луба ў сваім выступленні адказаў на некаторыя пытанні, закранутыя ў дыскусіі, і паінфармаваў аб заданнях БГКТ у 1986 годзе. На заканчэнне пленума быў адобраны план працы аддзела БГКТ на 1986 год.

Пасяджэннем кіраваў старшыня праўлення аддзела Мікалай Касцюк.

**В. Луба**

# STUDIA POLONO-SLAVICA-ORIENTALIA

Рэдакцыі польскіх літаратурных і навуковых часопісаў выпускаюць час ад часу „беларускія нумары", гэта значыць цалкам прысвечаныя беларускай тэматыцы ў выбранай галіне. Засталася ў маёй памяці такая ініцыятыва „Літаратуры на свеце", гады тры назад. А цяпер вось трымаю ў руках дзевяты том „Літаратурных актаў, польска-усходнеславянскіх даследаванняў", якія пад рэдакцыйным кіраўніцтвам Базыля Белаказовіча выдае Інстытут славяназнаўства Польскай акадэміі навук. З увагі на профіль гэтага выдання, у ім часта можна прачытаць цікавую працу з галіны беларусазнаўства.

У гэты раз багацце беларусікі ў ім выключнае. Том адкрываецца даследаваннем Адама Мальдзіса „Традыцыі польскага асветніцтва ў беларускай літаратуры XIX стагоддзя". Гэта перадрук, прытым у скарочанай версіі (у перакладзе на польскую мову). Магчыма, таму так зрабілі, што беларуская навуковая літаратура слаба даходзіць з БССР да польскіх даследнікаў... Больш непаўторнай публікацыяй з'яўляецца „Беларуская літаратурная спадчына Уладзіслава Сыракомлі" Уладзіміра Мархеля. У ёй шмат падрабязнага пра беларускую музу слаўнага „вясковага лірніка", пра яго сувязі з тагачасным беларускім падполлем упярэдадзень Студзеньскага паўстання. Грунтоўна і адначасна займальна перадае Мархель разважанні пра найаўтэнтычны варыянт, рэканструкцыю выдатнага верша „Добрыя весці", вядомага ў Беларусі ў рукапісах ад 1848 г. Беларуская творчасць Сыракомлі — нязвыклая! Адзін з арганізатараў беларускага літаратурнага жыцця Адам Кіркор заўважыў, што шмат-якія творы паэта перайшлі ў фальклор, сталі народнымі.

З нашых даследнікаў добра паказалі сябе ў гэтым томе Юры Туронак, Марыя Чурак, Мікалай Гайдук, Уладзімір Манах. Выступленне Туронка з артыкулам „З мінулага беларускага выдавецкага руху ў гадах 1902-1905" характарызуецца не толькі звычайнаю ў яго саліднай навуковасцю, але і... сенсацыйнасцю! Адразу нагадаў я тут сабе іншы артыкул гэтага знакамітага аўтара, менавіта „Пра ўзнікненне Дзядзькі Антона" (апублікаваны ў апошнім нумары „Славія арыенталіс"). Дзякуючы ягоным даследаванням мы ведаем сёння, як гаворыцца, амаль усё пра пачаткі беларускай выдавецкай дзейнасці ад нарадзінаў сучаснай нашай нацыянальнай свядомасці. — Нешта беларускае штораз выходзіла ў тадышні свет, што найбольш можа здзі-

(Працяг на стар. 6)

# У КАРЫСЦЬ ВЁСКІ

Кнаразы — вёска ў Бельскай гміне. Размясцілася яна ў трох кіламетрах ад шашы з Бельска ў Беласток, быццам схавалася ад вялікага свету за невялікімі лясамі паміж рэчкамі Арлянкай і Нярвай. Будынкі стаяць паабапал адной вуліцы, а вакол іх зямельныя ўгоддзі. Дамы рознага выгляду, але амаль усе драўляныя. Толькі дзе-недзе ўзвышаюцца мураванкі. Гаспадарчыя будынкі найчасцей новыя, мураваныя. Позняй восенню, калі апала лісце, дрэў не заўважаеш. У Кнаразах больш ста гаспадарак, у сярэднім дзесяцігектаровых. Больш паловы ўгоддзяў займае ворная зямля. Людзі, як і ўсюды, цяпер жывуць заможна. Прыкладна, у вёсцы ёсць каля шасцідзесяці прыватных трактароў. У будынках па калгасе, што быў тут у пяцідзесятых гадах, цяпер размяшчаецца машынная база СКРу з Бельска. Гэта тэхнічнае забеспячэнне сялян. У сельскагаспадарчым гуртку амаль усе гаспадары. Пры ім ёсць гурток вясковых гаспадынь (КГВ), у якім 65 жанчын.

У вёсцы Кнаразы жыве многа моладзі. Некаторыя гаспадараць на бацькоўскіх гаспадарках, іншыя працуюць або вучацца ў Бельску. Некалькі асоб закончыла, а некалькі яшчэ вучыцца ў Бельскім беларускім ліцэі. Дзейнічае тут гурток ЗСМП, які налічвае больш дваццаці членаў. Існуе і гурток БГКТ, які, на жаль, дасюль быў мала актыўным. Некаторыя жыхары пастаянна чытаюць „Ніву" а Міхась Кірылюк быў некалькі гадоў карэспандэнтам нашага тыднёвіка.

У вёсцы ёсць бібліятэчны пункт, у якім можна пазычыць таксама і беларускія кніжкі. Найчасцей яго наведваюць дзеці і школьная моладзь, але ў зімнія доўгія вечары і дарослыя любяць пачытаць кніжкі.

У Кнаразах ёсць крама, якая знаходзіцца ў прыватным памяшканні, і злеўня малака. Цяпер праз вёску праходзіць добрая жвіроўка. Пры яе будове працавалі грамадскім пачынам жыхары. Проста неабходна, каб да вёскі даязджаў аўтобус ПКС. Многа людзей мела б тады магчымасць даязджаць на працу, у школу, ці ў іншай справе паехаць у горад. Можна спадзявацца, што дырэкцыя ПКС у Беластоку не забудзе пра патрэбы сялян з Кнаразоў.

Найбольш актыўная арганізацыя ў вёсцы гэта каманда добраахвотнай пажарнай стражы. Паўстала яна тут у 1963 годзе. У 1970 годзе, калі атрымала яна самаход, матапомпы і іншую маёмасць, жыхары пабудавалі гараж. Каманда стала адной з найлепшых у гміне і ваяводстве. Пажарнікам і ўсім жыхарам вёскі патрэбны быў прасторны будынак са святліцай. Восенню мінулага года рашылі разбудаваць існуючую ўжо рамізу. Грамадскім пачынам і пры дапамозе гмінных улад праз год здзейснілі сваю задуму. Працавалі ўсе дружна: пажарнікі, моладзь і іншыя жыхары вёскі. У суботу 16 лістапада будынак быў перададзены ў карыстанне. З гэтай нагоды пажарнікам у Кнаразах на ўрачыстым вечары былі ўручаны адзнакі, дыпломы і іншыя ўзнагароды. Пасля кароткай афіцыйнай часткі ў новай святліцы з канцэртам выступілі слаўныя бельскія „Васілёчкі". Зала была запоўненая. Людзі захапляліся беларускімі песнямі ды прыгожымі галасамі і ўборамі „Васілёчкаў".

У гэты вечар у Кнаразы прыехаў таксама вакальна-інструментальны калектыў з Дубін. У рытме іх музыкі праходзіў танцавальны вечар. Вёска мае ўжо прасторнае памяшканне для культурнай дзейнасці. У новай святліцы, напэўна, знойдзе сваё месца і гурток БГКТ, каб жыццё ў Кнаразах было прыемным і цікавым для моладзі і старэйшых.

**Ян Мордань**

(Працяг са стар. 2)

## НА МЯЖЫ

рон, не трэба кары, не трэба спецыяльных кампаніяў. Трэба толькі аднаго — свядомасці, што такая ці іншая мова не толькі не дае карысці, але ў нейкай там форме з'яўляецца перашкодай. На жаль, такая свядомасць усё шырэй агортвае беларускія масы ў Польшчы. Я б не сказаў, што тыя бацькі, якія не навучылі сваіх дзяцей гаварыць па-беларуску, гэта свядомыя ворагі беларушчыны. Я асабіста многіх з іх ведаю. Жывуць яны і паводзяць сябе, як нармальныя людзі. Іх сэрцы, аднак, апанаваў мяшчанскі кансумпцыйны падыход да жыцця. Іх галоўны дэвіз — жыць лёгка, жыць выгадна. А лёгка і выгадна тады, калі дагаджаеш большасці, калі на цябе не звяртаюць увагі, калі табе не перашкаджаюць узбагачацца, калі ты не з'яўляешся белай варонай. Вось і ўсё. А мова дзядоў і прадзедаў? Бог з ёю, калі можам без яе абысціся, дык навошта марочыць сабе душу, тым болей, што становіцца яна з кожным годам усё меншая і меншая...

**Алесь Барскі**

## АЛІМПІЯДА

Алімпіяда па праграме сельскагаспадарчых і тэхнічных ведаў адбылася ў Бельску. Удзел прыняло 20 маладых гаспадароў. Алімпіяда адбывалася на двух узроўнях: падставовым і сярэднім. На сярэднім узроўні перамог Рышард Лучай з гуртка ЗСМП з Вароняга, другое і трэцяе месца заваявалі Багдан Мураўскі з гуртка ЗСМП у Дабраміле і Юзэф Балеста з гуртка ў Завадах.

На ўзроўні падставовым трэба было адказаць на пяць пытанняў. Тут перамаглі: Алеша Мойсік з гуртка ЗСМП з Дубяжына, Генік Аверчук таксама з гуртка ў Дубяжыне і Алёша Чэрняк з Райска.

Былі дыпломы, кніжкі і кубак, уфундаваны гмінным праўленнем ЗСМП у Бельску. Трох пераможцаў сярэдняга ўзроўню паедуць на алімпіяду ў Беласток у лютым 1986 г.

**Андрэй Гаўрылюк**

# У СЯМЯЦІЦКІМ ГУРТКУ БГКТ

14 лістапада 1985 года ў памяшканні сямяціцкага цэнтра культуры сабраліся члены гуртка БГКТ у Сямяцічах. Гэты гурток рэактываваў сваю дзейнасць пад канец 1984 года і на працягу года значна павялічыў колькасць членаў. Зараз налічвае ён 33 асобы. У гуртку ёсць маладыя людзі, якія працуюць у розных установах і на прадпрыемствах горада. Ад іх залежаць будзе дзейнасць гуртка ў будучым.

Аднак, дзейнасць гуртка БГКТ у Сямяцічах яшчэ мала прыкметная. Як павысіць актыўнасць гуртка, якую праграму прадставіць — гэта пытанні, над якімі задумваліся ўдзельнікі сходу. Старшыня гуртка БГКТ Уладзімір Ярашук лічыць, што неабходна развіваць культурную дзейнасць, што патрэбны хор.

Андрэй Датчук гаварыў аб цяжкасцях, якія спадарожнічаюць членам гуртка ў іх дзейнасці ў гэтым нацыянальна змешаным сямяціцкім асяроддзі. Звярнуў увагу, што трэба змагацца за большую актыўнасць беларускага насельніцтва.

Мікалай Касцюк даказваў, што трэба арганізоўваць аўтарскія сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі, а перш за ўсё ў Сямяцічах чакаюць Алеся Барскага.

Аляксандр Шарко звярнуў увагу на тое, што ў Сямяцічах не арганізоўваюць канцэрты беларускіх калектываў. А ў горадзе ж людзі цікавяцца беларускім словам, песняй і музыкай, дык трэба запрашаць у наш горад мастацкія калектывы БГКТ.

Сябра Ляшук даказваў, што ў Сямяцічах ёсць многа беларускай моладзі, якая ахвотна ўключыцца ў дзейнасць БГКТ, у стварэнне калектываў мастацкай самадзейнасці.

Удзельнікі сходу даказалі, якая важная для іх родная мова і родная культура. Яны бачаць патрэбу развіцця дзейнасці БГКТ у сваім асяроддзі. Усё гэта дазваляе меркаваць, што гарадскі гурток БГКТ стане ў нядоўгім часе адным з больш актыўных у Сямяціцкім аддзеле БГКТ.

**В. Луба**

радню ім удалося захапіць знячэўку і, як потым убачым, не надоўга. Затое з-пад Бельска іх адагналі, а не адышлі яны па ўласнай волі — „сама", як фальшывіць летапісец. Якраз пад Бельскам і іншымі гарадамі Пабужжа, Панароўя і Панямоння князю Данілу „с братом и со сыном Романом" быў дадзены моцны адпор, і яны ні з чым вярнуліся дамоў. І таму той жа прыдворны летапісец ва ўгоду свайму пану, князю Данілу, паспяшаўся дадаць сказ: „Потом же посласта многы своя пешьце и коники на град их и плениша всю вотчину их и страны их". Але гэта „потом" наступіла некалькімі гадамі пазней, а ўзімку 1253/4 года пад Вельскам галіцка-валынскія дружыны пацярпелі поўнае паражэнне. Летапісы маўчаць пра тых, хто даў гэты адпор захопнікам. Можам толькі здагадвацца, што не пад сілу тое было для адных вояў Бельскай зямлі. Мабыць, з дапамогай ім прыйшлі вої з суседніх зямель.

Неўзабаве „Миндовг посла сына си" на Панямонне, Панароўе і Пабужжа. Гэта, мабыць, быў Вайшэлк, які, як убачым у наступных адрэзках, унаследваў ад бацькі выдатны палкаводчы талент. Вайшэлк выбіў з Гародні галіцка-валынскую заставу, прагнаў іх з Панароўя і, злучыўшыся з мужнымі воямі Бельскай зямлі, рушыў на Пабужжа. Мабыць, таксама ачысціў Дарагічын і Бярэсце ад Данілавых і Васількавых намеснікаў і заставаў і ўдарыў на Паўночную Вальнь. Ішоў па правым прытоку Прыпяці, рацэ Тур'і (у яе вярхоўі распалажаны цяпер горад Ковель), дзе і знаходзілася тады пагранічная з Берасцейшчынай валынская крэпасць Турск (летапісец падае: „воева около Турьска").

Такім чынам, замест святкаваць перамогу ў ненавісным для іх Наваградку, давялося князям Данілу і Васільку Раманавічам паспешліва ладзіць абарону свае ўласнае сталіцы, бо горад Уладзімір Валынскі ад крэпасці Турск аддзяляў усяго няцэлы дзень пераходу конніцы Вайшэлка! Праўда, Вайшэлк здабываць Уладзімір, мабыць, і не збіраўся, але валынцам нарабіў шкоды ды нагнаў вялікага страху.

Няшчасці ходзяць парамі — кажа прыказка. Яшчэ меней пашанцавала іншаму члену варожай Міндоўгу кааліцыі — перабежчыку Таўцівілу. Яго вялікая і зборная, бо складзеная з галіцка-валынскіх, палавецкіх, жамойцкіх і яцвяжскіх вояў, армія таксама неахвотна выступала супраць Вялікага княства Літоўскага, не здолела даць рашучай бітвы войскам Міндоўга і вымушана была адступіць у глыб Жамойціі. Вайна паміж Таўцівілам і Міндоўгам зацягнулася, бо як чытаем у летапісе: „шмат бітваў было паміж імі". Гэта надта ж умела выкарыстала Міндоўгава дыпламатыя, якая перацягнула на бок Вялікага княства Літоўскага і Жамойцію і Яцвягію („убеди я серебром многим" — Данилу кажа Таўцівіл). Таўцівілу засталося толькі адно: уцякаць, пакуль ён і яго дружына не страціць галавы. І ён са жменькай недабіткаў нейк прыблукаўся на Валынь.

І так наступ аграмадных каліцыйных армій з поўначы, захаду і поўдня на маладую беларускую дзяржаву, Вялікае княства Літоўскае, закончыўся поўным правалам. У яе хапіла сіл і сродкаў, каб абараніць сваю незалежнасць у незлічоных бітвах або купіць прыхільнасць праціўнікаў „златом и сребром многим". Фактычна гэта была перамога беларускіх вояў і заможнай беларускай гаспадаркі. Змаганне за правы існавання яшчэ больш узмацніла яе дзяржаўны арганізм.

**М. Гайдук**

(Працяг са стар. 3)

# STUDIA POLONO-SLAVICA-ORIENTALIA

віць нас, прызвычаеных да таго, што была ў падполлі адна „Мужыцкая праўда“ ў тую далёкую нам эпоху. Услед за першымі лістоўкамі ці кніжыцамі на беларускай мове, якія выходзілі часам дзеля інтарэсаў не зусім адпавядаючых Беларусі, няўмольна шырылася беларускае пачуццё, спачатку павярхоўнае і кволае. Спатрэбілася ўсяго двух пакаленняў, каб дасягнула яно свайго зеніту ў выглядзе праслаўленай Грамады (у 1881 г. забойства імператара Аляксандра II і заснаванне Беларускай фракцыі „Народнай волі“ — і 1926 год, „год Грамады“).

Нечаканыя здогады і думкі прыходзяць у галаву, калі чытаеш працу Марыі Чурак „Люд беларускі“ Міхала Федароўскага і польская народная байка“. Даўно адкрытая навукаю з'ява вандроўкі сюжэтаў і тэмаў у культурах народаў Еўропы і свету знайшла тут сваё арыгінальнае асэнсаванне на матэрыяле беларуска-польскіх культурных сувязяў, як у гістарычны, так і ў дагістарычны часы. Выяўляецца гэта, прыкладна кажучы, у матывах з пакараным злодзеем, дзівосным канём, хітрым мужыком, дурною бабаю, абдураным шляхціцам, верным гайдуком, украдзеным шчасцем. Мікалай Гайдук, змяшчаючы шэраг беларускіх радзінных песняў, разам з нотным запісам іх дадаў небесцікавыя тлумачэнні ды каментарыі. Падагульняючая рэфлексія Гайдука наступная: гэтыя песні ўжо мёртвыя, іх натуральнае жыццё закончылася.

Працы, якія зацікавяць не болей як спецыяльнага чытача, гэта: Уладзіміра Манаха пра беларускія ўплывы на мову твораў Элізы Ажэшка, Францішка Сяліцкага пра байкі даваеннай Вілейшчыны, Эльжбеты Вісьнеўскай пра ўсходнеславянскія літаратуры на старонках „Вядамосьці літэрацкіх“ (беларускай там не было відаць). Вядомы нам беластоцкі вучоны Вацлаў Шаршуновіч змясціў вельмі грунтоўна напісаную працу „Казімеж Яворскі як перакладчык і папулярызатар беларускай паэзіі“. Гэты пісьменнік з Любліна пераклаў каля ста пяцідзесяці твораў больш дваццаці беларускіх паэтаў, асабліва зацікавіўшыся Максімам Танкам і Янкам Купалаю. Дарэчы, Уладзімір Стохель публікуе тут пісьмы Танка Яворскаму, дадаючы іх фатакопіі на асобных уклейках.

Паглядзеўшы на тыраж выдання, хочацца ўсклікнуць: чаму толькі чатырыста дваццаць пяць экземпляраў?!

**Аляксандр Анташэвіч**

„Studia Polono-Slavica-Orientalia, Acta Litteraria IX“. Ossolineum, Wrocław—Warszawa—Kraków—Łódź 1985. Cena 270 zł.



На ўрачыстым адкрыцці школы ў Дубяжыне выступіў інспектар асветы і выхавання гміны Аляксандр Артымовіч. У прэзідыуме (злева направа) — дырэктар бельскага белліцэя Аляксей Карпюк, куратар асветы і выхавання Эдвард Крынскі, дырэктар школы Янка Суліма, начальнік гміны ў Бельску Міхась Чаламей, старшыня гміннай рады нарадовай Лявон Радзіванюк і былы дырэктар школы Янка Шарко.

# НАРЭШЦЕ ЦЁПЛА І ЎТУЛЬНА

(Працяг са стар. 1)

чатак будовы новай школы. Зрабілі фундаменты, прывезлі ўласнымі сіламі з бацькамі з Беластока з разбору вялікі драўляны будынак, паставілі сцены, прыкрылі дахам. І на гэтым праца спынілася на некалькі год. Цяжкасці з матэрыяламі, грашыма, выканаўцамі, стан здароўя дырэктара — усё гэта разам затрымала на доўгі час будову. Сам дырэктар у міжчасе адышоў на пенсію.

Новы дырэктар ўзяўся адразу за будову школы. Пачаў ад сходу бацькоў, пазнаёміўся з бацькоўскім камітэтам будовы школы. Гаварыў з бацькамі сардэчна, спакойна, але рашуча. Расчуліў іх сваёй ахвотай прыйсці з дапамогай, прасіў і іх дапамагчы яму і сваім дзецям. Некаторыя жанчыны нават пусцілі слязу. Іншыя рашуча ўсталі: „Кажыце, што рабіць...“

Такім жа чынам дырэктар пастукаў ва ўсе ўстановы Бельска і Беластока, якія маглі б памагчы ў будове школы.

Вялікі вопыт працы ў асвеце, незвычайнае ўменне пераконваць людзей, а галоўнае, нязмерная ахвота як найхутчэй ўвесці малышоў пад цёплы і светлы дах дапамаглі пераламаць лёд бяссілля і недахопу ўсяго.

У будову школы ўключыліся ўсе — і інспектарат асветы ў Бельску, і Куратора ўя ў Беластоку, і старшыня гміннай рады нарадовай, і начальнік гміны, і камітэт фонду дапамогі школе, і будаўнічае прадпрыемства, і, галоўнае, моцна актывізавалася вясковае асяроддзе — камітэт будовы школы падтрымалі вяс-



Новая школа ў Дубяжыне.




# СКАЧОК У НЕВЯДОМАЕ

Васіль Рабцаў, сакратар Высокаўскага райкома КПБ, рашуча забараніў Дзмітрыю Макараву аставацца ў распалажэнні 49-ай стралковай дывізіі.

— Мы — работнікі палітычнага фронту, — заявіў ён. — І ў нас зусім іншыя заданні. Нас у першую чаргу абавязваюць партыйныя загады.

— Што ты тут адзін наваюеш! — далучылася жонка са сваімі дакорамі. І сам камандзір дывізіі, Васільеў, таксама не праяўляў залішняга энтузіязму, каб затрымаць пад сваёй камандай яшчэ адну групу работнікаў бяспекі.

Справу рашыла маланкавае развіццё падзей у прыгранічнай франтавой паласе. Ад Брэста ў напрамку на Валкавыск і Баранавічы ўпарта і паспяхова прабівалася 4-ая гітлераўская армія разам з 2-ой танкавай групай Гудэр'яна; ад поўначы, з раёна Сувалкаў і Гродна, насядала 9-ая варожая армія. Пагражала акружэнне савецкіх войск недзе на поўдзень ад Беластока. Трэба было неадкладна прабівацца на ўсход.

Цяжкі і небяспечны быў гэта рэйд пад бомбамі, снарадамі і кулямётамі. Дзмітры Макараў, успомніўшы гэтыя дні, проста ўздрыгнуў ад перажытага. Ад Камянца праз Белавежскую пушчу ехалі яны ўглыб Беларусі і спыніліся ў мястэчку Горкі, у тых Горках, якія праславіліся ў Еўропе першай вышэйшай сельскагаспадарчай акадэміяй, праіснаваўшай аж да нашых дзён. Там Дзмітры Макараў пакінуў жонку, а сам з групай чэкістаў накіраваўся ў Магілёў, маючы надзею, што далучыцца да дзейснай арміі. Магілёў аказаўся ўжо ў варожым акружэнні. Дык Дзмітры Макараў тут жа вярнуўся за жонкай і разам узялі курс на поўдзень, на Гомель.

Гэты самы напрамак свайго наступлення прадпрыймалі таксама гітлераўскія полчышчы, асабліва бронетанкавая група Гудэр'яна. Гомель, аднак, яшчэ аставаўся ў руках чырвонаармейцаў. Дзмітры Макараў атрымаў загад, каб узяць пад сваю каманду спецаддзел Цэнтральнага фронта. Тут ён упершыню панюхаў варожага пораху. Абарона Гомеля вялася вельмі заўзята. Цэлы тыдзень, ад 12 да 19 жніўня 1941 года абаронцы не прапускалі ў гэты беларускі горад гітлераўскіх захопнікаў. Аднак сілы былі няроўныя...

Дзмітры Макараў прывёз сваю жонку, Марыю Аляксандраўну, у Яраслаўль, на радзіму яе бацькоў, а сам вярнуўся ў Маскву, у распараджэнне войск Камісарыята ўнутраных спраў. Яраслаўль знаходзіцца ў 250 кіламетрах на паўночны ўсход ад Масквы і гітлераўцы туды ніколі не дайшлі. Дык за жонку быў ён спакойны.

## ТАЯМНІЦЫ НАВОКАЛ НАС

# ВОЛЬХА

На пераломе пяцідзесятых і шасцідзесятых гадоў мне даводзілася часценька бываць у белавежскіх вёсках Буды і Тэрміскі. Сябраваў я з Юлікам Дабжынскім. Аднойчы ў доме Дабжынскіх пайшла такая гутарка:

— Ці ведаеце, чаму цыганскія дзеці смуглыя? — пытаецца адзін з удзельнікаў вячэрняй сходкі.

— Эгэ-гэ, — смяецца гаспадар, — бо цыганы хрысцяць дзяцей у вывары з альховай кары!

Тады я ўспрыняў гэта як жарт. Але якое ж было маё здзіўленне, калі, праглядваючы матэрыялы да сённяшняга артыкула, я знайшоў нататку, што на самай справе на Мазоўшы бытавала легенда, быццам бы цыганы хрысцілі дзяцей, акунаючы іх у вывары з альховай кары. Выпадкова запытаў я знаёмых цыганоў, ці такое сцвярджэнне мае якую-небудзь рацыянальную падставу. Яны сказалі, што пра гэта нават і не чулі. Аднак старая легенда прыехала разам з мазаўшанамі ў Белавежскую пушчу і жыве там да сёння, толькі ўжо як жарт.

Вольха або альха клейкая (лацінская назва — Alnus glutinosa, olsza czarna — па-польску, ольха чёрная или клейкая — па-руску) усім вядомая, яна — як добры матэрыял на штыкеціны і дасканалае паліва. Але не толькі. На Беласточчыне ў народнай медыцыне вольхай карысталіся як лякарствам пры застудзе, выварамі з кары і мокрымі кампрэсамі са свежага лісця. Пры запаленчых станах горла, міндалін і кровацёках з поласці рота рэкамендавалі паласканне выварам з альховай кары. Быццам бы вымачыць ногі ў вадзе з запаранымі альховымі лісцямі дасканала абнаўляе сілы пасля доўгай знясільваючай хадзьбы.




Пры захворваннях скуры на хворыя месцы прыкладалі свежае лісце вольхі.

Назіранні народнай медыцыны былі праверaны навуковымі даследаваннямі. Яшчэ ў 1942 годзе савецкі вучоны Д. М. Расійскі клінічнымі даследаваннямі пацвердзіў лячэбныя ўласцівасці альховай кары і адначасова ўстанавіў, што яшчэ болей да гэтага прыгодны шышкі вольхі. Гэтыя шышкі збіраюць позняй восенню і зімой, а кару бяруць ранняй вясной. Як шышкі, так і кара лячэбна дзейнічаюць пры запаленчых станах дванаццаціперснай кішкі, паносе (асабліва рэкамендуецца гэты сродак пры паносе ў дзяцей), пры кровацячэннях з носа і дзяснаў, а таксама як лякарства супраць гарачкі пры апёках.

У савецкай літаратуры рэкамендуюць наступныя спосабы хатняй нарыхтоўкі лякарстваў:

**Навар з шышак вольхі:** узяць 4 грамы шышак, заліць адной шклянкай кіпетню і закіпяціць; піць (даросламу чалавеку) па чвэрць шклянкі 3-4 разы ў дзень.

**Вывар з кары вольхі:** узяць 15 грам пакрышанай кары, заліць шклянкай кіпетню, заварыць, прымаць па адной сталовай лыжцы 3-4 разы ў дзень.

**Налiўка з шышак вольхі:** узяць 10 грам шышак, заліць 50 грамамі гарэлкі, прымаць па 25-40 кропель тры разы ў дзень перад ядой.

**Свежае лісце вольхі** можна прыкладаць да гнойных ранаў, скулаў, нарываў і інш.

Не ведаю, ці гэта праўда, але калісьці ў Навасадах казалі, што лісце вольхі, пакладзенае ў клуні пад сена, вельмі добра адганяе мышэй. Праўда-няпраўда, але спрабаваць можна.

**Б. Паскробка**

## Куток практычных ведаў

Калі вы пакалолі палец або руку косцю рыбы, апусціце палец у самую гарачую ваду. Каб было лягчэй вытрымаць высокую тэмпературу вады, перацягніце палец тасёмкай або гумкай. Пасля ванны зрабіце кампрэс з гарэлкі або спірта напалову з вадой. Гэта папярэдзіць утварэнне нарыва.

## БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА ВАЧЫМА АНГЛІЧАН

У мінулым і ў пачатку бягучага гадоў сужонства англійскіх кіназдымшчыкаў Ліз і Тоні Бомфард рэалізавалі ў Белавежскай пушчы прыродазнаўчы фільм для тэлевізійнай кінафабрыкі „Англія“. Як мы даведваемся, фільм гэты, названы „Змаганне за лес зуброў“ („Battle of the Bison Forest“) ужо скончаны. 18 жніўня г.г., у нядзелю, яго паказвалі па брытанскаму тэлебачанню.

Фільм глядзела, між іншым, Анна Волэк, якая ў 197-нумары лонданскага „Дзённіка Польскага“ піша аб ім так: „У амаль гадзінным фільме паказаны ўсе найпрыгажэйшыя закуткі пушчы, звярыныя запаведнікі, рык аленяў, чароды зуброў, барсукі, насякомыя і птаства. На фоне прыгожых, поўных настрою здымкаў расказана гісторыя Белавежы, як выглядае яе сённяшні дзень і планы на будучыню. Аўтары шмат месца адвялі зубрам, якія ізноў жывуць у пушчы. Паказалі іх транспарціроўку ў розныя закуткі Польшчы, між іншым, таму, каб на выпадак нейкай хваробы не знаходзіліся яны ў адным месцы. Змаглі мы, такім чынам, пабачыць прыгожы, разумны фільм аб гэтым „найбольш цэнным“ лясным вугалку Еўропы“.

Добра ацэньвае фільм таксама Вeслаў А. Лясоцкі. Сцвярджае, што з'яўляецца ён „...вельмі ўмела запланаваным, па-майстэрску прыкрэсленым цудоўнымі здымкамі. Мае вельмі добры, зразумелы каментарый“.

Аўтарам каментарыя фільма з'яўляецца Руля Ленская (правільна — Альжбета Лубенская), дачка аднаго з ад'ютантаў ген. У. Андэрса. Яе бацька ў 30-тых гадах паляваў у Белавежскай пушчы.

Спадзяемся, што фільм пакажа таксама неўзабаве польскае тэлебачанне.

**П. Байко**

## БЕЛАРУСКІЯ ПРЫКАЗКІ

Лепшае слаўца за піўцо.

*

Мала думаў, а добра сказаў.

*

Навука ў лес не ідзе.

(Працяг са стар. 7)

# СКАЧОК У НЕВЯДОМАЕ

та група Тараса Андрэевіча Шунько, Дзмітрыя Матвеевіча Макарава, Грыгорыя Осіпавіча Архіпава ды іх радыстаў Сабачнікава і Косціка, а таксама санітаркі Сянкевіч гэты шлях адолела сапраўды даволі шчасліва. Ім вельмі ж пашанцавала. Зрабілі скачок у невядомае ды ішлі па заданню, не вельмі ведаючы, што можа іх сустрэць. На шчасце, першы сустрэў іх партызанскі камандзір, а дакладней кажучы, брыгадны камісар Іван Уладзіміравіч Сенькін, на якога спасылаецца таксама і Дзмітры Макараў. У кніжцы „Буг в огне“ знайшоў я ўспаміны гэтага арганізатара партызанскага руху, між іншым, і на зямлі нашай роднай Беласточчыны. Там ён адзначае:

„У чэрвені 1943 года С. І. Сікорскі выклікаў да сябе ў штаб камандзіра партызанскага атрада „Савецкая Беларусь“ — М. Бабкова, і мяне, як начальніка штаба гэтага атрада...“

Варта ведаць, што Сяргей Іванавіч Сікорскі ад сакавіка 1943 года быў давераным прадстаўніком Беларускага штаба партызанскага руху па Брэсцкай вобласці, а таксама выконваў абавязкі сакратара падпольнага Брэсцкага абкома партыі і камандзіра Брэсцкага злучэння партызан. Па яго прапанове на базе атрадаў „Савецкая Беларусь“, імя Кірава, імя Дзімітрава, імя Гастэлы ды імя Суворава была створана партызанская брыгада „Савецкая Беларусь“ са штабам у Гута-Міхалінскіх лясах. Камандзірам брыгады быў назначаны Мікалай Бабкоў, а камісарам, І. Сенькін. Брыгада хутка разрасталася і неўзабаве давялося падзяліць яе на дзве самастойныя партызанскія брыгады: „Савецкая Беларусь“ ды імя Панамарэнкі. Тады І. Сенькін стаў камандзірам брыгады імя Панамарэнкі, а брыгада „Савецкая Беларусь“ асталася надалей пад камандаваннем М. Бабкова.

„Гэтыя брыгады, — адзначае ў сваіх успамінах І. Сенькін, — кантралявалі частку Слонімскага, Косаўскага, Пружанскага, Бярозаўскага і Поразаўскага раёнаў. Яны прыкрывалі шляхі руху акупантаў па чыгуначных магістралях Брэст-Масква і Валкавыск-Слонім, а таксама па шасейных дарогах Ружаны-Пружаны, Косава-Слонім і Косава-Ружаны.

Дыверсійныя групы, выдзеленыя з гэтых брыгад, праводзілі баявыя аперацыі ў Камянецкім, Высокаўскім, Кляшчэлеўскім і Гайнаўскім раёнах.“

На жаль, Іван Сенькін не ўспамінае аб спецгрупе Тараса Шунько і Д. Макарава, якая была заслана з Масквы ў распараджэнне яго брыгады, але Дзмітры Матвеевіч даказвае, што яны якраз трапілі ў штаб брыгады „Савецкая Беларусь“.

— Тут мы па радыё звязаліся з Беларускім штабам партызанскага руху ў Маскве, — расказваў мне Д. Макараў.

Тады паведамілі іх, што Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі зацвердзіў назначэнне Шунько Тараса Андрэевіча сакратаром Кляшчэлеўскага райкома, Макарава Дзмітрыя Матвеевіча — членам бюро райкома ў Кляшчэлях і адказным за бяспеку па гэтаму раёну, а Архіпава Грыгорыя Осіпавіча — сакратаром райкома Камсамола, таксама ў Кляшчэлях. Адначасова перадаваўся загад Брэсцкаму партызанскаму злучэнню, каб гэтай спецыяльнай групе выдзеліць партызанскі атрад, з лікам не менш чым 50 партызан, і накіраваць яго на пад'ём барацьбы з акупантам у Кляшчэлеўскім раёне. Гэтакі атрад атрымалі яны ў лясах пад Споравам. З ім накіраваліся ў Івацэвіцкі раён. Атрад налічваў 60 чалавек. А што было далей, дык аб гэтым цераз тыдзень.

**Віктар Рудчык**

# ЗЯРНЯТКІ

**ПАДРУЧНІК РОДНАЙ МОВЫ ДЛЯ ТРЭЦЯГА КЛАСА**

**Аўтары Лідзія Гайдук — Мікалай Гайдук**

### ДЗЕНЬ І НОЧ

— Як цябе завуць, ноч? — спытаўся дзень.

— Як завуць? Ніяк не завуць. Ноч і ноч.

— А як будуць зваць цябе заўтра?

— Як гэта „зваць заўтра“? Заўтра таксама будуць зваць ноч.

— А як звалі цябе ўчора?

— Таксама ноч.

— А мяне сёння завуць аўторак, заўтра будуць зваць серадой, а ўчора звалі панядзелкам, — сказаў дзень.

*1. Прачытайце.*

**Часткі сутак: дзень, ноч, раніца, поўдзень, вечар, поўнач.**

**Дні тыдня: панядзелак, аўторак, серада, чацвер, пятніца, субота, нядзеля.**

*2. Адкажыце, у якія дні вы вучыцеся, а ў якія — адпачываеце.*

*3. Які сёння дзень? Якая частка сутак?*

*4. Адкажыце на пытанні. Адказы запішыце ў сшытак.*

*а. Што вы робіце раніцай?*

*б. Чым займаецеся ў поўдзень?*

*в. Што рыхтуеце вечарам?*

*5. Замест кропак устаўце патрэбныя дні тыдня.*

1. Сёння .... 2. Учора быў (была) .... 3. Дзень таму быў (была) .... 4. Заўтра ... 5. Праз тыдзень будзе .... 6. Праз два дні будзе .... 7. Праз тры дні будзе....

*6. Прачытайце верш. Замест кропак устаўце патрэбныя назвы дзён тыдня.*

### ТЫДЗЕНЬ

Па нядзелі....
Пачынае свой надзелак.
І няўрымслівы...
у рабоце не заморак.
Наперадзе чарада,
пасярodку....
Даў ёй слова напавер
выручыць сястру....
Вясёлая.... —
заўсёды выдатніца,
а прыйшла.... —
скончана работа.
Красуля...
Абновы надзела.

**Васіль Вітка**

*7. Прачытайце словы парамі. Перад якімі галоснымі і зычнай д, т замяняюцца ў дз, ц?*

Дні — дзень,
Іду — ідзём,
гад — гадзюка,
сад — садзяць,
год — годзік,
работа — на рабоце,
шахта — шахцёр,
стынь — сцюжа,
плата — плацяць,
рот — роцік,
два — дзве, дзвесце,
чэрствы — чарсцвець,
мёртвы — мярцвець.

**Зычныя гукі д, т перад галоснымі е, ё, я, ю, і, а таксама перад мяккім зычным в змяняюцца ў мяккія дз, ц: абед — пры абедзе, мантаваць — манцёр, чатыры — чацвёрты.**

*8. Замяніце словы, як паказвае ўзор. Запішыце.*

Склад — у складзе, агарод — ...., горад — ...., расада — ...., Канада — ....

Свет — на свеце, жыта — ...., варта — ...., балота — ...., хата — ...., газета — ....,

*9. Пры спісванні ўстаўце патрэбныя зычныя.*

### ...ЯЖУРНАЯ.

На...ейка завязвае павязку. Яна вы...ірае дошку, стол, лаўкі. Прыносі...ь і кла...е пры дошцы крэйду. Потым з вял.ерца чэрпае кубкам і палівае за...вілыя кветкі. Яна гля...і...ь, каб у класе ўсё было ў парадку. Ужо ...е...і ся...я...ь на сваіх месцах. Увахо...і...ь настаўніца, ...е...і вітаюцца з ёю. На...ейка добрая ...яжурная.

*10. З дадзенымі словамі складзіце сказы. Запішыце.*

Дзверы, цвёрды, чацвёрты, цвіль, цвіце.



## Пішуць школьнікі

### ПАВАЖАНАЯ РЭДАКЦЫЯ „ЗОРКІ“!

*Піша Вам Лена Марозава з СССР. Жыву я ў горадзе Шахты — у шахцёрскім горадзе, які займае адно з важных месц у СССР па здабычы каменнага вугалю. Мае дзядуля і дзядзька працавалі шахцёрамі-вугалездабытчыкамі, а цяпер яны на заслужаным адпачынку. Мой прадзед быў старшынёй шахцёрскага камітэту. А тата працуе ў горадзе Растове-на-Доне лётчыкам.*

*Наш горад займае першае месца сярод іншых гарадоў вобласці па азеляненню вуліц, плошчаў, школ, скевераў і падворкаў.*

*Мне 13 год. Вучуся я ў 23-яй школе, у 7 „А“ класе. У кожнага класа нашай школы ёсць свой прышкольны ўчастак зямлі. Наш палетак самы вялікі і прыгожы, мы пасадзілі ў мінулым годзе на ім ружы і чарэмху, у памяць аб воінах нашай Радзімы, якія не вярнуліся з вайны. На нашым палетку расце таксама рабіна, якая штогод дае плады, бяроза, маладзенькая сасонка, жасмін, вербы.*

*Цяпер я з'яўляюся старэйшай піянеркай і ў красавіку, калі мне споўніцца 14 год, мяне і іншых старэйшых піянераў будуць прымаць у Камсамол.*

*Я вельмі хачу перапісвацца з дзяўчынкай ці хлопчыкам з вашай краіны. Я збіраю маркі, паштоўкі каляндарыкі. Мой адрас: СССР, 346514, Ростовская обл., г. Шахты-14, ул. Балтийская, 46/4. Морозовой Лене.*

(Працяг са стар 9)

### НАВАГОДНЯЯ СУСТРЭЧА

лікі дзякуй вам за ўвагу, за дабрату, за ласку да старога... Хвілінку можна пасядзець. Вось трошкі з вамі адпачну ды зноў наперад у дарогу.

Таня. Чаго спяшацца вам, дзядуля? Сустрэнем разам Новы Год і ўранку пойдзеце сабе.

Стары Год. Такі мой лёс ад нараджэння: хвіліны вольнае не мець — заўсёды быць напагатове.

Ліда. А колькі ж вам гадоў, дзядуля?

Таня. Вы не такі яшчэ стары.

Стары Год. Жыццё гадамі не лічу я. Мой шлях жыццёвы — толькі дні. Мая гадзіна — тыдзень ваш. Хвіліна — ледзь не дзве гадзіны. Вось і падумайце цяпер, які мой век і колькі я пражыў. Дадам яшчэ: пры нараджэнні мне людзі далі імя — Год.

*Уваходзяць незвычайна адзетыя ганцы. Стары Год адступае і моўчкі садзіцца на табурэтку.*

Ганцы *(разам, кланяючыся).*
Малым, сярэднім і высокім,
Хто ў зале тут, усім да звання,
Суседзям блізкім і далёкім
Прынеслі шчырае вітанне!

Ліда. Вялікі дзякуй за вітанне, хоць і не знаем ад каго,

Ганец першы. Мяне, яго, абодвух нас, ганцамі выслаў Новы Год.

Таня. А сам чаму ён не прыйшоў?

Ганец першы. Тады ён з'явіцца да вас...

Ганец другі. Калі настане яго час.

Таня. Сюды? Да нас? На ёлку прыйдзе, як вы, сапраўдны Новы Год?

*Ганцы моўчкі ківаюць галовамі.*

Ліда. Які на выгляд ён? Скажыце.

Ганец першы. Высокі, стройны, малады.

Ганец другі *(паказвае на Старога Года).* І без сівое барады.

Таня *(круціць ад радасці вакол сябе Ліду).* Ой, Лідачка, мая збылася мара. Да нас прыходзіць Новы Год!

Ліда. Яшчэ разок агледзьма ёлку, каб не прыйшлося чырванець.

*Ліда і Таня аглядаюць ёлку, сям-там папраўляюць цацкі. Стары год гутарыць з Ганцамі.*

Стары Год. Наколькі я тут зразумеў, вы будзеце ганцы?

Ганец першы. Так, мы ганцы. Нас гаспадар раней паслаў перад сваім прыходам...

Ганец другі. Зірнуць, не зроблена дзе што старым аджытым годам.

Стары Год *(задумліва, прыгадваючы).* Што мог зрабіць, здаецца, усё зрабіў... Ён мне папроку кінуць не пасмее.

*Ліда і Таня прыслухоўваюцца да гутаркі.*

Ганец першы. Парадак любіць Новы Год. Ён строгі гаспадар.

Ганец другі. Усім верхаглядам, гультаям зірне ён смела ў твар.

Стары Год. Змагаўся я таксама з гультаямі і верхаглядам спуску не даваў. Адзін лянуецца вучыцца, другі вяршкі стараецца схапіць, і хваляцца, што ведаюць усё урок як след не прачытаўшы .

Ганец першы. А хто вы будзеце, дзядуля?

Ганец другі. Не бачыш — школьны вартаўнік.

Стары Год *(махае рукамі).* О не, не, не... Стары, аджыты Год.

Ганец першы. Ды вы, дзядуля, жартаўнік.

Стары Год. Там, дзе сур'ёзным трэба быць, дык не да твару жарты. *(Задумліва).* І я такіх, як вы, калісьці наперад слаў ганцоў. Каб падрыхтавалі сустрэчу...

*Стары Год, за ім ганцы павольна ідуць, азіраючы ёлку.*

Таня *(Лідзе, таямніча).* Ты чула, хто гэты дзядуля?

Ліда. Ага. Ды вось сакрэт загадкі: „Жыццё гадамі не лічу я...“

*Ганцы і Стары год выходзяць на пярэднюю частку сцэны.*

Стары Год *(да ганцоў).*
Хай не здзіўляе вас мой твар.
То працы, клопаты састарылі яго
І валасы ў срэбра пабялілі.
А сілы яшчэ многа у мяне.
І сэрца роўна б'ецца у грудзях.
*(Пауза).*
Карыснага я людзям шмат зрабіў,
Яны ніколі не забудуць
Таго, хто сілы шмат аддаў,
Каб мір, спакой навекі захаваць
Паміж людзьмі планеты нашай.

Ганец першы. Гаспадару свайму мы ўсё раскажам.

Ганец другі. Каб ведаў пра тваё старанне.

Ганец першы. *(другому).* Пара ісці нам у дарогу...

Ганец другі *(да дзядулі).* Мы не сустрэнемся больш з вамі... Усяго найлепшага, дзядуля.

Ганец першы *(дзяўчынкам).* Чакайце нас. Бяжым на ўсход...

Ганец другі. Адкуль ідзе наш Новы Год.

*Выходзяць.*

Ліда *(наўздагон).* Адно не баўцеся ў дарозе.

Таня. Мы будзем вас чакаць.

*Праз другія дзверы ўбягаюць Коля, Валодзя, Аня.*

**Працяг у наступным нумары**

## А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А



**Спалучы кропачкі ад 1 да 23 і скажы, на што дзьмухаюць хлопцы.**



**Адрас рэдакцыі: „Зорка“ 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.**

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Piątek 12 XII** — 8.10 Przysp. obr. kl. VIII—I lic. 9.00 Wokół nas kl. I—II. 9.30—12.00 Domator. 9.35 Domowe Przedszkole. 10.00 DT. 10.10 Film dla II zmiany „Powstańcza opowieść". 11.30 Tylko dla ciebie. 12.00 Hist. kl. III lic. 13.30 TTR — s. I Biol. 14.00 TTR — s. I Chem. 14.30 Kurs Rolniczy. 14.55 Wokół nas kl. I—II. 15.35 W szkole i w domu. 15.55 Nurt. 16.25 Program dnia + DT. 16.30 Dla ciebie. 16.55 Piątek z Pankracym. 17.20 DT. 17.30 Żyć w krajobrazie. 17.50 Piłkarska kadra czeka. 18.05 Bez próby. 19.00 Dobranoc. 19.10 Studium. 19.30 Dziennik. 20.00 Monitor Rządowy. 20.30 „Powstańcza opowieść" — (3 — ostatni odcinek) serialu CSRS. 21.50 DT. 22.10 Uczony fizyk — rep. fim. 22.20 Magazyn reporterów. 23.25 DT.

**Sobota 14 XII** — 7.25 TTR — s. III Fiz. 7.55 TTR — s. III Biol. 8.25 Program dnia. 8.30 Tydzień na działce. 9.00 Sobótka oraz film z serii „Domek na prerii". 10.30 DT. 11.00 Bariery. 11.30 Na krawędzi słowa. 11.50 Lista Przebojów. 12.05 Galeria 37 milinoów. 12.30 Siedem anten. 13.15 Agrolotnicy — rep. film. 13.35 Rzeszowiacy — rep. film. 14.00 Konto „M". 14.30 Magazyn lotniczy. 15.00 DT. 15.05 Antologia Dramatu Powszechnego: A. Puszkin — „Borys Godunow". 17.10 Magazyn PCK. 17.20 Losowanie D. Lotka. 17.35 Puchar świata w narciarstwie alpejskim. 18.20 Kram. 19.00 Dobranoc. 19.10 Z kamerą w'ród zwierząt. 19.30 Dziennik. 20.00 Prapremiery „Trąd w pałacu sprawiedliwości" — film włoski. 21.40 Czas. 22.30 DT. 22.35 Wiadomości sportowe. 22.50 Koń mój Bogu niepotrzebny". 23.40 Kino nocne.

**Niedziela 15 XII** — 7.15 Alarm przeciwpożarowy. 7.25 Wszechnica rodziny wiejskiej. 8.15 Program dnia. 8.20 Tydzień. 9.00 Teleranek. 10.30 DT. 10.35 Afryka — angielski serial. 11.35 Ocalić od zapomnienia. 12.00 Ułamek sekundy — serial TV włoskiej. 12.50 Koncert Życzeń. 13.35 Wieczysty zwrot. 14.35 Kraj za miastem. 15.00 DT. 15.05 Teatr dla dzieci. 15.45 Studio 1. 18.20 Antena. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.00 Pan na Żuławach — serial TP. 20.55 Pegaz. 21.35 Studio Sport. 23.45 DT.

**Poniedziałek 16 XII** — 13.30 TTR — s. I Mat. 14.00 TTR — s. I J. pol. 15.55 Nurt. 16.25 Program dnia + DT. 16.30 Encyklopedia TDC. 16.55 Zwierzyniec. 17.20 DT. 17.30 Stawka większa niż życie (16) „Operacja «Liść dębu»" — serial TP. 18.30 Echa stadionów. 19.00 Dobranoc. 19.10 Laboratorium. 19.30 Dziennik. 20.00 Publicystyka. 20.15 Teatr TV. 21.30 DT. 21.50 Seans Filmowy „Pegaza". 22.20 DT. 22.35 Język niem. (9).

**Wtorek 17 XII** — 8.10 Biol. kl. VI. 9.00 Mat. kl. I. 9.30—12.00 Domator. 9.35 Domowe przedszkole. 10.00 DT. 10.10 Film dla II zmiany „Bel Ami" (3). 11.40 Bądź piękną. 12.00 Hist. kl. VII. 12.50 J. pol. kl. IV lic. 13.30 TTR — s. III. J. pol. 14.00 TTR — s. III Mat. 14.30 Kurs Rolniczy. 14.50 Mat. kl. I. 16.25 Program dnia + DT. 16.30 Akademia Muzyczna. 16.55 Michałki. 16.55 Cojak. 17.20 DT. 17.30 Gazeta Rolnicza. 18.00 Informator Wydawniczy. 18.15 Z filmoteki 40-lecia. 19.00 Dobranoc. 19.10 Klinika Zdrowego Człowieka. 19.30 Dziennik. 20.00 Publicystyka. 20.15 „Bel Ami" (8) — franc. serial film. 21.45 DT. 22.05 Spór o gospodarkę. 22.45 DT.

**Środa 18 XII** — 8.10 Fiz. kl. VI. 9.00 Muz. kl. II. 9.30—12.00 Domator. 9.35 Domowe przedszkole. 10.00 DT. 10.10 Człowiek dnia wczorajszego — film RFN. 11.30 Zielono mi. 12.00 Wiedza o społ. kl. VIII. 12.50 J. pol. kl. II lic. 13.30 TTR — s. Mech. rol. 14.00 TTR — s. I Hod. zwierz. 14.30 Kurs Rol. Upr. zbóż. 14.50 Muz. kl. II. 15.55 Nurt. 16.25 Program dnia + DT. 16.30 Krąg. 16.55 Tik-Tak. 17.20 DT. 17.30 Losowanie Ex. Lotka i M. Lotka. 17.40 Studio Sport. 18.45 Radar. 19.00 Dobranoc. 19.10 Archiwum XX wieku — Plan Barbarossa. 19.30 Dziennik. 20.00 Publicystyka. 20.15 Człowiek dnia wczorajszego — film RFN. 21.35 DT. 21.55 Poczta obywatelska. 22.45 DT.

**Czwartek 19 XII** — 8.10 Geogr. kl. VIII. 9.00 Praca-Tech. kl. III. 9.30—12.00 Domator. 9.35 Domowe przedszkole. 10.00 DT. 10.10 Ballada o mężczyznach — film bułg. 11.25 Apteczka domowa. 11.35 Historia najbliższa. 12.00 J. pol. kl. VII. 12.50 Praca-Tech. kl. IV. 13.30 TTR — s. I Upr. rośl. 14.00 TTR — s. III Hod. zwierz. 14.30 Kurs Rol. — Upr. zbóż cz. II. 14.50 Praca-Tech. kl. III. 16.25 Program dnia + DT. 16.30 Kryptonim „Klio". 16.55 „Był sobie człowiek" odc. pt. „Anglia królowej Elżbiety" film anim. fran. 17.20 DT. 17.30 Mówmy otwarcie. 17.55 PZU informuje. 18.05 Poligon. 18.30 Sonda — „Sen". 19.00 Dobranoc. 19.10 Dom. 19.30 Dziennik. 20.00 Publicystyka. 20.15 Teatr sensacji: W. Łysiak „Selekcja". 21.55 DT. 22.15 Interstudio. 23.15 DT. 23.20 J. franc. (9).

## КІНО

**Bielsk Podl.** Niewinni święci — hiszp. 16—18. Przemytnicy — pol. 21—22.

**Czeremcha** Błękitne góry czyli nieprawdopodobna historia — radz. 18. Edukacja sentymentalna Daszy — czes. 21—22.

**Czyże** Rok spokojnego słońca — pol. Na rabunek — radz. 18—22.

**Hajnówka** Spokojnie, to tylko awaria — USA 16—17. Ratunek dla miasta — bułg. 18—20. Czy leci z nami pilot — USA 21—22.

**Michałowo** Symfonia wiosenna — NRD 17—18. Czuję się świetnie — pol. 19—20. Trzeba grać — węg. 21—22.

**Mielnik** Klasztor Shaolin — Hong-Kong 18—22.

**Milejczyce** Vabank II czyli Riposta — pol. Sam na sam — pol. 18—22.

**Orla** Wściekły — pol. Adela jeszcze nie jadła kolacji — czes. 18—22.

**Nurzec** Mniejszy szuka dużego — pol. 18. Martwa fala — pol. 19—20. Na ringu — rum. 21—22.

**Rajsk** Operacja „Dąb" — rum. Miłość ci wszystko wybaczy — pol. 18—22.

## ШТО-ДЗЕ-КАЛІ

### ПРАДУКЦЫЙНЫ ПОСПЕХ

Спорна працуюць краўчыхі ў філіяле беластоцкай спулдзельні „Бельпо" **у Міхалове.** Усіх іх тут 69 асоб. Некаторыя жанчыны даязджаюць сюды з Ялоўкі, Новай Волі, Пяňкоў і Гарадка.

— Сёлетні прадукцыйны план будзе перавыкананы, сцвярджае кіраўнічка міхалоўскага прадпрыемства па пашыве вопраткі **Ніна Зувальская.** — Калектыў прыняў дадатковыя прадукцыйныя абавязацельствы. Будзем працаваць ў некаторыя свабодныя суботы. Да работы ёсць ахвота і спрыяльныя для добрай працы ўмовы.

Як даведваемся, прадпрыемства атрымоўвае дастатковыя колькасці тканін, нітак. У перапынку можна выпіць чай і напітак з мяты, падсілкавацца ў сталовай.

Паспяховыя прадукцыйныя вынікі гэта заслуга перш за ўсё **Ядвігі Пракаповіч, Яўгеніі Магнушэўскай, Валянціны Горбач, Валянціны Сальвановіч, Надзеі Богдзель, Антаніны Шафран, Анны Кулешы, Марыі Аксюцік, Валянціны Дрэвіцкай, Тамары Літвін, Марыі Астравецкай, Анастасіі Крэйзы** і іншых.

Кравецкае прадпрыемства ў Міхалове існуе 35 гадоў. У канцы бягучага года адбудзецца сустрэча з пенсіянерамі. Усіх іх 25 чалавек. Кіраўнічка філіяла „Бельпо" падрыхтавала памятныя падарункі. **(яц)**

### ПА ЎХАБІНАХ

Даволі моцна разбіты брук на адной з семяноўскіх вуліц ад школы ў напрамку тамашняй крамы. Зараз па ёй небяспечна ехаць — ёсць тут некалькі глыбакаватых папярэчных амаль што раўчукоў. Брук здаўна не быў рамантаваны.

Адно толькі пацяшальна, што калі трэба ехаць у Альхоўку, Міклашэва або Нараўку, дык спамянуты ўхабісты брук можна абмінуць. Ёсць, на шчасце, іншая дарога па-за вёскай. **(яц)**

### ПРАЦАВІТАСЦЬ АПЛАЧВАЕЦЦА

Уладзімір Флёрчук з вёскі Піліпкі добры і працавіты гаспадар. Абрабляе 15 гектараў зямлі, на якой сее многа збожжа, кантрактуе лён і бульбу. У яго пяць кароў, у малачарню носіць па 50 літраў малака ў дзень. На мяса гадуе і здае многа свіней і валоў. Трымае і пчол — мае свой мёд. У яго трактар і ўсе прычэпныя машыны.

**Юра Панфілюк**

### РЭПАТРЫЯНТЫ

Слова гэта добра вядомае ў нашай краіне. Абазначае тых, хто вярнуўся на радзіму. Пасля доўгіх гадоў разлукі з роднай зямлёй вярталіся тыя, каму давялося некалі пакінуць яе, калі на чужой зямлі шукалі працы і хлеба. Вярталіся і тыя, якія ніколі яе не бачылі, а ведалі пра яе з апавяданняў бацькоў ці дзядоў. Усе яны былі ўпэўнены, што зямля тая найдаражэйшая на зямным шары, бо ўзбагачана касцьмі продкаў. Слова рэпатрыянт поўнасцю пасуе да іх, мае сэнс.

Ёсць у нас, аднак, рэпатрыянты, якія аб зямлі, на якую прыехалі, ніколі не чулі, не ведалі, або ведалі яе зусім мала. Прыехалі з зямлі сваіх продкаў, дзе выхаваліся, дзе ўсё для іх было найдаражэйшае, а што патрацілі — давялося ім пазнаць пазней — з вялікім болем і жалем у душы. Змяніўся краявід, загінулі традыцыі, культура, змянілася асяроддзе. Пагубіліся суседзі, якія разам калісьці ехалі ў незнаёмы край. Апынуліся ў гарадах, мястэчках ці вёсках. Прыціхла мова, прыціхлі песні. Праз дзесяткі гадоў не загаварылі ні слова па-беларуску, адны праз сорак гадоў, іншыя можа крыху менш. Не прачыталі на роднай мове ані слова. З дзецьмі, калі прыйшлі на свет, часцей за ўсё на роднай мове не гаварылі, бо пaпісаліся палякамі, з'яўляліся рэпатрыянтамі, „якія вярнуліся на радзіму". Справа рабілася вельмі складанай. А калі дарослыя дзеці даведаюцца аб паходжанні бацькоў і сваім, прымуць гэта як? Ой, па-рознаму.

Старэюцца бацькі, старэюцца рэпатрыянты, якія ніколі імі не былі. Спачнуць яны на зямлі, якую па розных прычынах выбралі. І толькі прозвішчы на могілках будуць сведкамі іхняй прысутнасці на гэтай зямлі. Некаторыя задуменна паставяць сабе пытанне: адкуль яны тут? Адны адкажуць: гэта рэпатрыянты, другія скажуць: эмігранты. Так, па адчуванні напэўна не рэпатрыянты, і паводле закона — не эмігранты. І толькі верыць можна, што калі вырасла маладое пакаленне, якое даведалася аб зямлі бацькоў і беларускім паходжанні, будзе яно прыхільнікам беларускасці. Аднак страты, якія ўчыніла асіміляцыя, ніхто не ў сілах ужо вярнуць...

**Рышард Бутайла**

### МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на такі адрас:

Bank Spółdzielczy w Hajnówce Nr Konta 905217-1922-132.

У замежнай валюце: Narodowy Bank Polski I Oddział w Białymstoku nr rachunku walutowego 5018-24325-151-6787.

Паведамляем таксама, што цэнтры збірання экспанатаў для музея знаходзяцца ў наступных месцах:

у Пачатковай школе ў Рыбаках, гміна Міхалова,
у будынку былога ПЗГС у Гайнаўцы,
у клубе БГКТ у Бельску, вуліца Міцкевіча 50/54,
у клубе БГКТ у Гайнаўцы, вуліца Вызвалення 6,
у Гмінным камітэце ПАРП у Мілейчыцах,
у Саколцы, вуліца Варынскага 1,
у ГП БГКТ у Беластоку, вуліца Варшаўская 11.

Чакаем экспанатаў або інфармацыі аб месцы іх знаходжання.

**Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej i Ruchu Rewolucyjnego, 17-200 Hajnówka, ul. Wyzwolenia 6. Тэлефон 28-89.**

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ

**Золата пад дахам на хутары ля Супраслі знаходзіць Віктар Рудчык ● Вяртанні прафесара Сяліцкага да сардэчнай краіны ● Пра гістарычнае „ўчора" піша Аляксандр Анташэвіч ● Махнацкі стоячы апладзіруе Анташэвічу ● Пра слёзы і гора паведамляе Аўрора ● Ваенныя сцежкі дайшлі да крытычнага дня ● Пётр Байко прыпамінае слаўнага сына беларускай зямлі Баляслава Бервячонка ● Беларускі фальклор Аляксандра Баршчэўскага ● Б. Паскробка адкрывае таямніцы ўказальных раслін ● „Зорка" ● Што-дзе-калі ● Гумар**

## — КАЛЯНДАР —

**95 гадоў назад**

21.12.1890 нар. М. Аладаў, беларускі кампазітар.


# Ніва

**ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА**

**Галоўны рэдактар**
**Георгій Валкавыцкі**
**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**„Niwa"**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok skr. poczt. 149**
**tel. 232-41**

Wydawca Białostockie Wydawnictwo Prasowe. 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1

Druk Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku. Cena prenumeraty kwart. 104 zł; półr. 208 zł; rocznej 416 zł.

WARUNKI PRENUMERATY:

1. dla osób prawnych — instytucji i zakładów pracy:
   - instytucje i zakłady pracy zlokalizowane w miastach wojewódzkich i pozostałych miastach w których znajduje się siedziba Oddziałów RSW „Prasa-Książka-Ruch" zamawiają prenumeratę w tych Oddziałach;
   - instytucje i zakłady pracy zlokalizowane w miejscowościach gdzie nie ma Oddziałów RSW „Prasa-Książka-Ruch" i na terenach wiejskich opłacają prenumeratę w urzędach pocztowych i u doręczycieli;
2. dla osób fizycznych — indywidualnych prenumeratorów:
   - osoby fizyczne zamieszkałe na wsi i w miejscowościach gdzie nie ma Oddziałów RSW „Prasa-Książka-Ruch" opłacają prenumeratę w urzędach pocztowych i u doręczycieli.
   - osoby fizyczne zamieszkałe w miastach — siedzibach oddziałów RSW „Prasa-Książka-Ruch" opłacają prenumeratę wyłącznie w urzędach pocztowych nadawczo-oddawczych właściwych dla miejsc zamieszkania prenumeratora. Wpłaty dokonują używając „blankietu wpłaty" na rachunek miejscowego Oddziału RSW „Prasa-Książka-Ruch".
3. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch" Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw ul. Towarowa 23, 00-953 Warszawa, konto NBP XV Oddział w Warszawie Nr 1153-201045-139-11. Prenumerata ze zleceniem wysyłki za granicę pocztą zwykłą jest droższa od prenumeraty krajowej o 50 proc. dla zleceniodawców indywidualnych i o 100 proc. dla zlecających instytucji i zakładów pracy.

Termin przyjmowania prenumeraty na kraj i za granicę
- do dnia 10 listopada na I kwartał i półrocze roku następnego oraz cały rok następny,
- do dnia 1 każdego miesiąca poprzedzającego okres prenumeraty roku bieżącego

Zam. 954/85 r. Nakład 5.000. G-3.

# РАЗВАЖЛІВЫ ЛЕЎ

**Прыйшла Авечка раз да Льва**
**І кажа так жывёла:**
**— Мая залежыць галава**
**Ад вашай цалкам волі.**

О, уладар, назнач мяне
На воўчую пасаду.
Усё жыццё я ў старане,
Заўжды цягнуся ззаду.

Я чула, звольніўся ваш Воўк
На пенсію, ў адстаўку.
І, можа, будзе з мяне толк,
Яго займу я стаўку.

Сказаў ёй Леў: не гавары,
Нага ў цябе ў капытках,
А тут патрэбны кіпцюры,
Дый не павадкі нышка.

Як ты Авечка — ёй і будзь
І не мяняй натуры.
З Авечкі Воўк — гэта ж памруць
Ад смеху нават куры.

**Уладзімір Новік**

# ПУЛУ-ПУГІ І ЗЛАДЗЕІ

Аднойчы ў дом Пулу-Пугі залезлі зладзеі. Яны пачалі шнырыць па ўсіх кутках, але нічога каштоўнага не знайшлі.

Раптам адзін са зладзеяў нечакана заўважыў Пулу-Пугі, які схаваўся ў кутку пакоя.

— Эй, Пугі, што ты тут робіш, чаму схаваўся? — спытаў ён.

— Мне сорамна перад вамі, браткі, што ў маім доме не знайшлося нічога нават для зладзеяў.

(З армянскага)

— Дарма стараецеся, я магу заснуць толькі за сваім рабочым сталом.

# НІЎКА

Без слоў.

## ФАЛЬКЛОР

Зялёны барвіночак да й па бору паслаўся,
а мой міленькі-чорнабрывенькі да й праз людзі кланяўся*).

### ЗАМУЖАМ ЛІХО
(вясельная)

Зялёны барвіночак да й па бору паслаўся,
а мой міленькі-чорнабрывенькі да й праз людзі кланяўся*).

Каб я тое знала, што замужам горо,
да й сядзела бы, бульбу ела бы ў мамуленькі гола.
Каб я тое знала, што замужам ліхо,
да й сядзела бы, часнык ела бы ў мамуленькі ціхо.
Пайду да даморы: ані хлеба, ані солі,
уцякаць буду, праклінаць буду ад нішчасные долі.
Пайду да касцёла, стану за дзвярамі,
усе моляцца, усе моляцца, а я плачу слязамі.
Спатыкай міне, мама, з велікімі пірагамі,
а я цібе, родна маманька, з горкімі слязамі.

*) Кожны другі радок паўтараецца.

**Ад Монікі Федаровіч, 1922 года нараджэння вёска Ахрымаўцы гм. Кузніца Беластоцкая, запісаў 29 верасня 1985 года М. Гайдук, мелодыю расшыфраваў Я. Бондар.**

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Ведаеце, як у Шатландыі ацяпляюцца бальніцы?
— Не.
— Хворыя з высокай тэмпературай ходзяць з палаты ў палату і саграваюць іх...

*

— Ты зноў выйшла замуж? — пытае сяброўка старую мільянерку.
— Так. Але калі б ты ведала, колькі мне гэта каштавала! — адказвае тая з уздыхам.

*

— Калі я махаю рукой, гэта значыць, што вы, Карлсан, павінны падыйсці да мяне!
— Ясна, пане дырэктар! А калі я ківаю галавой, гэта значыць, што я не падыду!

### ЁН І ЯНА

Жонка гаворыць мужу:
— Вячэра хутка будзе гатова. Потым я выкупаю дзяцей, улажу іх спаць, прышыю гузікі да тваёй кашулі, і можна будзе пайсці ў кіно.
— Добра, — адказвае муж.
— А калі ты сходзіш па білеты?

### У СТУДЭНТАЎ

На ветэрынарным факультэце прафесар пытае студэнта:
— Як бы вы паступілі, калі б конь зламаў ключыцу?
Студэнт пачынае тлумачыць. Прафесар спыняе яго:
— Перш за ўсё вам бы трэба было пазваніць у заалагічны музей і паведаміць, што вы выявілі адзінага ў свеце каня з ключыцай!

З „Веснiка Задрыпоўя"

### ВЕСТКІ З АТС

Новая форма абслугоўвання абанентаў уведзена на Лапатунскай тэлефоннай станцыі: калі набраны кліентам нумар заняты або не адказвае, аўтамат спалучае са свабодным, і так да тых пор, пакуль хто-небудзь не падыдзе.

### МАЛЕНЬКІЯ ХІТРАСЦІ

Калі не браць водпуск дванаццаць год запар, потым можна адпачываць цэлы год.

З чаго смяюцца суседзі.

— І ПОПЛУТАВ МЕНЕ ЛИХИЙ НА ДИРИГЕНТЦІ ОДРУЖИТИСЬ!..

ЛЫЖНО!

# КУРЁЗЫ

### САЛОДКАЯ ЛІНДА

Сярод майстроў сцэны, кіно і тэлеэкрана найбольш ахвотнікаў рэкламаваць парфюмерныя вырабы: відаць, на думку саміх артыстаў гэта менш прыніжае іх прафесійны гонар. Напрыклад, шырока вядомы 52-гадовы кінаакцёр Джон Колінс, выкарыстоўваючы сваю прыгожую знешнасць, рэкламуе толькі самыя навейшыя духі: маўляў, ужыванне гэтых духоў будзе надзяляць людзей зайздроснай прыцягальнасцю і абаяннем артыста, заўсёднашняга пестуна публікі. Папулярная спявачка Лінда Эванс таксама ж практыкуецца на навінках, прычым рэкламныя шыльды запэўніваюць прахожых, што яе любімыя духі гэткія ж салодкія, як і сама Лінда.

### ВЕДАЕЦЕ, ХТО Я?

Штрафам у 250 долараў і 200 доларамі судовых утрыманняў закончыўся канфлікт чыноўніка з Парыжа па прозвішчы Аліўе Леклерк. Праўда, апошні даволі вядомы ў пэўных колах як красамоўны адвакат. Едучы ў Ліён, ён, як нічога і не было, накіраваўся па прыватнай хуткаснай аўтастрадзе, а паколькі там працавала толькі адна паласа (другая рамантавалася), то ён вырашыў змахляваць — заплаціць за праезд удвая менш — усяго 40 долараў. Ды і тыя не хацеў уносіць — таму справа і дайшла да суда.

# Міне з намі

**Колькі ж трэба мець здароўя, каб кожны месяц выбіваць сабе лекарскі лісток!**